# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 25 (1008) ГОД XX 22 ЧЭРВЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.




### ПЛАЦДАРМ
**(Фрагмент з паэмы)**

*Сандамір...*
*Чую дрэў тваіх пошчак,*
*Пошум парка над Віслай-ракой.*
*Там цяпер абеліскі на плошчах*
*Азараюць жыццёвы спакой.*
*Там адкрытыя насцеж прасторы*
*Вабяць зеленню ціхіх далін,*
*А мне бачыцца знойку*
*Той горад,*
*Праз які мы ішлі на Берлін.*
*Перад тым я на многіх плацдармах*
*На Дняпры і на Прыпяці быў.*
*А тут смерць*
*Проста біла ў твар мне,*
*Як праз вогненны вір*
*Ноччу плыў.*

*

*Восень сорак чацвёртага года*
*Прывяла нас на гэты плацдарм.*
*Мы ўжо знялі —*
*Апошнім паходам*
*Хутка бой за Берлін*
*Стане нам.*

*Мне б пісаць пра байцоў,*
*Пра іх раны.*
*Але тут памагчы трэба ім.*
*І з рэдакцыі ў вогненны ранак*
*Я іду на плацдарм радавым.*
*Бой грыміць,*
*І маё аддзяленне*
*Па траншэях паўзе агнявых.*
*Нас зямлёю*
*У час наступлення*
*Засыпае ад выбуха ўсіх.*
*Мы зліліся з халоднай зямлёю,*
*Жоўтым жвірам набіты раты.*



*Твары ў многіх заліты крывёю,*
*Прамакаюць да ніткі бінты.*
*Трэба ўстаць.*
*Трэба рушыць з акопа.*
*Мы ўзняліся усе, як адзін.*
*Сіл спыніць нас*
*Ні ў кога не хопіць,*
*Бо мы рвёмся адсюль*
*На Берлін.*

*

*Трыццаць год.*
*Дуб над Віслай калматы*
*Многа росаў асыпаў на жвір.*
*І сягоння я ўжо не салдатам, —*
*Шчырым госцем іду ў Сандамір.*
*Я не стану блукаць тут між сосен*
*Па-над Віслай — бурлівай ракой.*
*Проста знойку іду ў тую восень,*
*У паходзе быў разам з якой.*

*Тая восень,*
*Нікім не забытая,*
*І сягоння мне бачыцца ў сне.*
*Тая восень,*
*Крывёю палітая,*
*Папярэднічала вясне,*
*Пераможнаму нашаму маю,*
*Што расквеціў над Віслаю шыр...*

*Я віншую цябе,*
*Абдымаю,*
*Горад-друг,*
*Горад-брат,*
*Сандамір!*

**Пятро Прыходзька**

**ДА 50-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ ГРАМАДЫ**

# ЯНА ЎСКАЛЫХНУЛА НАРОД

Праіснавала яна ўсяго няцэлых дваццаць месяцаў, але і гэтага было дастаткова, каб у наш час гісторыкі аўтарытэтна сцвердзілі, што ўжо само ўтварэнне Грамады стала адным з найбольш яркіх праяўленняў рэвалюцыйнай творчасці беларускага народа. Грамада была адзінай з'явай у сваім родзе. У Еўропе міжваеннага перыяду было шэраг краін з вострымі ўнутранымі праблемамі. Аднак ні ў адной з іх не паўстала ў той час такая масавая, пругкая і гэтак моцна звязаная з сялянскімі масамі арганізацыя.

Многа было прычын, што паўстала Грамада на землях былой Заходняй Беларусі. Вось найважнейшыя з іх. Большасць сялян не мела з чаго жыць. Мястэчкі і гарады душыла безрабоцца. Беларусы не дапускаліся на дзяржаўныя пасады. Школы на роднай мове былі ліквідаваны. Вялікі ўплыў перамогі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычных пераўтварэнняў, якія адбываліся ў Савецкай Беларусі. Паскоранае развіццё нацыянальнай самасвядомасці ў шырокіх масах беларускага насельніцтва.

Гэты стан уздзейнічаў на паслоў-беларусаў, якія ўваходзілі ў тагачасны польскі Сейм і ад лістапада 1922 г. складалі Беларускі пасольскі клуб, арганізацыю надта неаднародную, што праводзіла хісткую палітыку ад апазіцыі да супрацоўніцтва з урадам. З гэтым не маглі згадзіцца тыя паслы, што імкнуліся ў сеймавых дэбатах выражаць думкі і погляды працоўных мас Заходняй Беларусі і змагацца за правы прыгнечанага народа. Ужо ў другой палавіне 1923 г. сярод беларускіх паслоў паўстала левае рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло, члены якога ў сваіх сеймавых выступленнях і на сходах выбаршчыкаў выступалі супраць унутранай і знешняй палітыкі буржуазна-памешчыцкага ўраду. **А 24 чэрвеня 1925 г.** гэтая група радыкальных беларускіх паслоў у складзе С. Рак-Міхайлоўскага, П. Валошына і П. Мятлы на чале з Б. Тарашкевічам утварылі самастойны пасольскі клуб — Беларуская сялянска-рабочая Грамада. Паслы Грамады адразу адмежаваліся ад буржуазна-нацыяналістычных партый і іх прадстаўнікоў у Сейме і ўступілі ў новаўтвораны сеймавы Рабоча-сялянскі блок, які гуртаваў Камуністычную пасольскую фракцыю і Пасольскі клуб Незалежнай сялянскай партыі (НПХ). Гэтым крокам паслы Грамады далі выраз еднасці з найбольш паслядоўнымі прадстаўнікамі інтарэсаў польскіх рабочых і сялян. Адначасова яны разгарнулі шырокую дзейнасць дзеля стварэння ў Заходняй Беларусі арганізацыі сялян, рабочых і інтэлігенцыі для барацьбы супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.



*Браніслаў Тарашкевіч — старшыня Цэнтральнага камітэта БСР Грамады.*

Аднак не адразу Беларуская сялянска-рабочая Грамада разгарнула свае крылы. Яшчэ ў чэрвені 1926 года было ўсяго 19 грамадаўскіх гурткоў і 569 чле-

**(Працяг на стар. 4)**



**ПЕРАМАГЛІ!**

**Гэтыя дзве дзяўчынкі ў нацыянальных уборах — Валя Янцэвіч і Аля Юшкевіч з Чыжоў занялі першае месца сярод дуэтаў у цэнтральным аглядзе школьнага конкурсу „Беларуская песня-75“, які адбыўся 1 чэрвеня 1975 г. у сядзібе БГКТ.**

**Фота Я. Цялушэцкага**

## Пуцяводныя думкі

Чалавек нараджаецца не для таго, каб гібець у бяздзеянні, а каб працаваць над вялікай і грандыёзнай справай.

*Л. Б. Альберці*

Шлях, усыпаны кветкамі, ніколі не прыводзіць да славы.

*Ж. Лафантэн*

Кожная мінута актыўнага жыцця падобна на атрыманую перамогу.

*С. Смайлс*

**ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?**

# ПРЫНЦЫП ДАБРАВОЛЬНАСЦІ І ЯГО ДЗЕЯННЕ

Выступаючы ў дыскусіі, мае папярэднікі заявілі: вось вінаваты і таварыства і настаўнікі, бацькі. Адны слаба прапагандуюць, іншыя бяздушна вучаць, абыякава адносяцца. Словам, прапануецца ледзь не акт калектыўнай самакрытыкі.

Няцяжка зразумець, што зыходным пунктам такіх меркаванняў з'яўляецца псіхічны бар'ер, які ствараюць актуальныя правілы асветных улад аб добраахвотнасці вывучэння роднай мовы. Логіка нібы простая: калі дабравольнасць, тады і віноўных можна шукаць толькі на сваім панадворку. А вывады, да якіх даходзяць дыскутанты, драматычныя і правакуюць запытанні: няўжо наша насельніцтва не з'яўляецца нічым больш, як усходнеславянскай этнічнай групай з нігілістычнымі адносінамі да сваёй нацыянальнай мовы і культуры? Няўжо навучанне беларускай мовы ў школах, якое ажыццяўляецца ўжо 35 гадоў, раптам страціла сэнс?

Каб даследаваць пытанне салідна, неабходна разгледзець усе факты, якія ўплываюць на абсяг і працэс навучання. Няма сумнення, што адным з найважнейшых, па сутнасці рашаючым, з'яўляюцца правілы міністэрства асветы, якія рэгулююць працу школ у галіне навучання роднай мовы. Якімі ж

**(Працяг на стар. 4)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

## БГКТ хроніка

■ У Ялоўцы (гміна Шымкі) адбыўся нядаўна сход гуртка БГКТ, на якім быў абмеркаваны план працы да канца бягучага года. Звернута была таксама ўвага на рэгулярнае аплочванне членскіх складчын.

■ Прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку супольна з радай клуба 12 чэрвеня падсумавалі сваю дзейнасць за першае паўгоддзе і абмеркавалі напрамкі працы да канца 1975 года. На гэтым пасяджэнні прэзідыума было зацверджана прыняццё ў рады БГКТ 44 новых членаў. Абмеркаваны былі таксама бягучыя справы працы ў клубе.

■ 12 чэрвеня ў Паўночным Востраве (гміна Шудзялава) адбыўся сход з удзелам старшыні ГП БГКТ Міколы Самоціка, які расказваў прысутным аб працы і заданнях Беларускага таварыства. На сходзе прысутнічаў таксама сакратар прапаганды гміннага камітэта ПАРП у Шудзялаве — Мікалай Гаспэрчык і солтыс Паўночнага Вострава Міхась Байгус. Шмат увагі было прысвечана арганізацыйным справам народнага фэстына БГКТ, прысвечанага 30-ай гадавіне перамогі над гітлераўскай Германіяй, які адбыўся ў гэтай вёсцы 15 чэрвеня.

## Наша галерэя



*Карціна П. А. Крываногава, якая адлюстроўвае першы бой гарнізона Брэсцкай крэпасці ля Цярэспальскіх варот.*

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 21.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 10.00 Nikt nie rodzi się żołnierzem — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.20 Hod. zwierz. 15.00 Pr. dnia. 15.05 Pr. I prop. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 16.00 Dzien. 16.10 Święto Morza. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Filmy Humphreya Bogarta: Mieć i nie mieć — film fab. USA. 22.00 Pr. rozr. 22.35 Dzien. 22.55 Sport. 23.10 Pr. rozr.

**Niedziela 22.VI.** 6.15 Tech. Rol. J. pol. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Dla mł. widzów: Przyjaciele Dawrana — film fab. radz. 10.10 Antena. 10.30 Turecka włócznia — film fab. węg. 12.00 Dzien. 12.20 Tydzień. 12.50 Sercem ojczystych progów strzeż — film ze Świat. Fest. Polon. Zesp. Art. 13.35 Nie tylko dla pań. 14.20 Bułgaria — Polska — mecz quizowy. 15.00 Film. 15.45 Lekt. Pegaza. 16.00 Pr. oświat. 16.25 Relaks z Chopinem. 16.40 Los. Toto-Lot. 16.55 Refl. ob. 17.10 Sport. 18.10 Pr. publ. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.25 Sam na sam z J. Putramentem. 22.25 Winda — pr. rozr. 23.00 Sport.

**Poniedziałek 23.VI.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 NURT — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Echo stad. 17.05 Kur. Maz. 17.20 Kr. Warsz. i Maz. 17.35 TELEFERIE. 18.50 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: M. Gorki — Zykowowie. 21.50 Pegaz. 22.35 Pr. muz. 22.55 Dzien. 23.10 Oferty.

**Wtorek 24.VI.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Vidocq — film ser. fr. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Fiz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Na wielkim i małym ekr. 17.05 Spotkanie w kosmosie. 17.30 Lato z pomysłem. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Motocross — film fab. CSRS. 21.50 Interstudio. 22.30 Co nam zostało z tych lat. 22.55 Dzien. 23.15 Sport.

**Środa 25.VI.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Fiz. 10.00 Film fab. 14.30 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.50 NURT — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Inf. — Tow. — Prop. 16.50 Los. Mał. Lot. 17.00 HUTA KATOWICE. 17.30 Świat, który nie może zaginąć — film dok. ang. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Bez togi. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Romantyk — film fab. węg. 21.45 Świadkowie. 22.15 Pr. publ. kult. 22.55 Dzien. 23.10 Sport.

**Czwartek 26.VI.** 8.00 i 8.30 Kurs Informat. 10.00 Sybiraczka — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia 16.30 Dzien. 16.40 Śpiewa Elda Viler. 17.00 Kr. Warsz. i Maz. 17.20 Przyp., radz. 17.30 TELEFERIE. 18.50 Poligon. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Fest. Pios. Pol. Opole 75. PRZEBOJE SEZONU. 22.20 Listy i polityka. 22.50 Dzien. 23.05 Sport.

**Piątek 27.VI.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Upr. rośl. 9.00 PORANEK TEL. NAJMŁ. 10.00 Film fab. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.50 NURT — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Publ. sport. 17.10 Dwie rodziny — teletur. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Fakty, op., hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Fest. Pios. Pol. Opole 75. 22.20 Panorama. 23.00 Dzien. 23.15 Sport.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 20.VI.** — 9.00 Film fab. 17.00 Śpiewa Niestierenko. 18.00 Film fab. 20.15 Koncert estrad.

**Sobota 21.VI.** — 9.00 Film fab. 11.00 Film fab. 13.15 Śpiewa Koleśnik. 14.45 Koncert. 15.50 Film anim. 17.15 Błękity płomyk.

**Niedziela 22.VI.** — 11.30 Koncert zesp. „Bieriozka". 13.10 Piosenki Zacharowa. 14.20 Pr. międzynar. 15.40 Film anim. 17.30 P. nożna Dynamo (Kijów) — Dynamo (Tbilisi). 20.45 Na Spartakiadzie Narodów ZSRR.

## БЕЛАРУСКІЯ КАЛУМБЫ

# Павел Шпілеўскі

„Я даўно не адчуваў такога дзівоснага душэўнага захаплення; жыццё сталічнае надоўга разлучыла мяне з роднымі мясцінамі Беларусі, дзе я правёў першыя, цудоўныя гады дзяцінства, дзе ўпершыню зазнаў столькі радасці і ўцех у асяроддзі сваякоў і блізкіх сэрцу людзей...

Мне ўспомніліся тыя цудоўныя дні, поўныя нявыказнай весялосці, зразумелай толькі таму, хто сам гэта зазнаў, дні, калі я спяшаўся на канікулы з губеранскага горада ў аддалены павет і мог з поўнаю свабодаю раз'язджаць па вёсках і сёлах, дзе, па нейкай страснай, неўсвядомленай ахвоце да вывучэння народных павер'яў і казак, прыслухоўваўся да гукаў гарманічнай пявучай беларускай мовы, запісваў словы і гісторыі з вуснаў сялян, дамарослых баянаў і знахароў, прабіраўся ў беларускія хаты і клеці, знаходзіў прыемнасць гутарыць за сціплай вясковай трапезай з сівавалосымі старымі і маршчыністымі бабулямі... Што цягнула мяне туды, у гэтыя хаціны бедных людзей? Не ведаю... Я любіў гэтых добрых людзей, я знаходзіў уцеху ў іхняй павольнай, лянівай размове, у іхніх песнях, прыказках і прымаўках; мне весела было жыць з імі, дзяліцца чыстым захапленнем іхняй душы; мне не хацелася ісці з іхніх хат, мне шкада было расставацца з іх куткамі, дзе я пачуў столькі дзіваў і цудаў пра князёў заваражаных і князёўнаў зачараваных, пра скарбы недаступныя і страшыдлаў, што пільнуюць іх, пра чароўныя лёхі і знахароў-ведзьмароў... Колькі новага, невядомага мне на школьнай лаўцы, я ўведаў у гэтым народным вучылішчы, багатым разнастайнымі прадметамі і навукамі пра родную мову..."

Хоць цытата і доўгая, але прызнайцеся, ці не прыемна было чытаць? А цяпер пагаворым аб тым, хто і калі напісаў гэта.

Павел Шпілеўскі нарадзіўся каля 1823 года. Бацька яго быў святарнікам. Хоць асоба і духоўная, але характар меў дзёрзкі і неспакойны. Вось чаму так часта яго перамяшчалі з месца на месца. Таму не так лёгка ўстанавіць дакладную дату нараджэння выдатнага беларускага этнографа і фальклрыста, якім быў Павел Шпілеўскі. З месцам нараджэння тыя ж клопаты. Але калі верыць архіву Мінскай праваслаўнай кансісторыі, які захаваўся досыць добра, Павел Шпілеўскі прыйшоў на свет у вёсцы Шыпілавічы Бабруйскага павету Мінскай губерніі. У гэтай вёсцы яго бацька быў свяшчэннікам з 1819 па 1825 год.

Усякая рэч мае два бакі. У тым, што бацька П. Шпілеўскага дужа вандраваў, можна ўбачыць шмат добрага. Перамена месц нарадзіла ў хлопчыка цягу да новых адкрыццяў. Пазней у пошуках этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў ён аб'едзе не толькі ўсе беларускія губерні, але дабярэцца нават да Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны. Бо і тут пражывала многа беларусаў.

Праз нейкі час напіша: „У гады дзяцінства я не ўяўляў, што некалі, гадоў праз дваццаць, буду вывучаць, або, правільней, давучваць родную сваю мову і дзеля гэтага падарожнічаць па тых самых мясцінах, якія гэтак дарагія для мяне ўспамінамі пра шчаслівае мінулае...

Пачуўшы даўно знаёмую мне беларускую гаворку, я мімаволі спыняўся і, здавалася, удыхаў у сябе гукі меладычнай пявучай мовы, што чуліся ў паветры; у душу маю вось так і прасіліся водгаласы слоў, што вымаўляюцца, па звычцы беларусцаў, нараспеў, працяжна".

Гэтая цытата, як і папярэдняя, узяты з серыі артыкулаў пад агульнай назвай „Падарожжа па Палессі і Беларускім краі". Артыкулы былі надрукаваны ў славутым „Современнике", у 1853-1855 гадах. Шпілеўскі быў актыўным супрацоўнікам яшчэ і такіх часопісаў, як „Иллюстрация" і „Искусство". Павел Шпілеўскі быў не толькі відным беларускім этнографам, фальклрыстам, краязнаўцам, але і прафесійным пецярбургскім тэатральным крытыкам.

Пісаў Шпілеўскі і белетрыстыку. У „Современнике" было надрукавана тры ягоных апавяданні. А на аповесць для дзяцей „Цыганя" адгукнуўся нават М. Г. Чарнышэўскі.

На гэтым не вычэрпваецца літаратурная творчасць Паўла Шпілеўскага. У 1857 годзе ён напісаў драматычны твор „Дажынкі". Выступаў Шпілеўскі і як перакладчык. Зналі яго не толькі ў Пецярбургу і Мінску. Нейкі час ён працаваў, а можа і вучыўся ў Варшаве.

Але для нас П. М. Шпілеўскі ў першую чаргу застаецца выдатным беларускім этнографам і фальклрыстам.

П. Шпілеўскі вельмі многа зрабіў у вывучэнні беларускага фальклору. Запісаў розныя песні, словы, прымаўкі, загадкі, прыказкі, казкі і г.д. Склаў і „Слоўнік і карнясловы беларускай гаворкі". Дваццаць год свайго жыцця ён аддаў Беларусі.

**Ул. Малашкевіч**

## КІНО

**Białowieża** Rodeo — USA 24—25. Jak to się robi — pol. 26—27. Orzeł i reszka — pol. 28—29.

**Czeremcha** Incydent — USA 24—25. Teoria uwodzenia — czes. 28—29.

**Czyże** Kasztany miłości — wł. Weronika — rum. 25—29.

**Dubicze Cerkiewne** Śmierć wybiera — czes. Wybacz i żegnaj — radz. 25—29.

**Gródek** Potop — pol. 28—29.

**Kleszczele** Przyjęcie — rum. 24—25. Wspaniały interes — wł. 26—27. Zła noc — czes. 28—29.

**Michałowo** Sto karabinów — USA 24—25. Węgorz za 300 milionów — wł. 26—27. Czwarta pani Anderson — hiszp. 28—29.

**Milejczyce** Ślub bez obrączki — czes. 24—25. Orzeł i reszka — pol. 26—27. Przygody Hucka Finna — radz. 28—29.

**Narew** Szaleństwo miłości — nor. Trzy orzeszki dla kopciuszka — NRD 25—29.

**Narewka** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. Narkotyk fr. 25—29.

**Nurzec** Bokser — pol. 24—25. Dzielny szeryf Lucky Luke — fr. 26—27. Kraksa — wł. 28—29.

**Orla** Pójdziesz ponad sadem — pol. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 25—29.

**Rajsk** Swobodny oddech — czes. Zapis zbrodni — pol. 25—29.

**Suchowola** Przygody Robinsona Kruzoe — radz. 24—25. Rodzinny gang — wł. 26—27. Roztargniony — fr. 28—29.

B.Z.Graf. zam. 1672 P-1

Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб адкрыцці з новага навучальнага года ў Мінску яшчэ адной вышэйшай навучальнай установы — інстытута культуры.

Чым прадыктавана нараджэнне новай ВНУ? Якія прафесіі будуць атрымліваць яе выпускнікі? На гэтыя пытанні карэспандэнта БЕЛТА адказвае намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР Ф. Н. Капуцкі.

— Тыя, каму даводзілася праязджаць у апошнія гады па гарадах і вёсках нашай рэспублікі, не маглі не здзівіцца размаху будаўніцтва ўстаноў культуры. У райцэнтрах, у многіх калгасах і саўгасах узводзяцца выдатныя палацы і дамы культуры, прасторныя сельскія клубы, бібліятэкі і музычныя школы. Толькі ў бягучай пяцігодцы былі адкрыты сотні новых устаноў культуры. Гэта сведчанне не толькі ўмацавання эканомікі прадпрыемстваў і гаспадарак, але і паказчык росту духоўных запатрабаванняў працаўнікоў горада і вёскі. На жаль, тэмпы будаўніцтва ачагоў культуры прыкметна апярэджваюць пакуль што нашы магчымасці ўкамплектавання іх высокакваліфікаванымі, адукаванымі кадрамі. Дапамагчы ліквідаваць гэту неадпаведнасць і заклікаены Мінскі інстытут культуры, які адкрываецца ў верасні.

## ШТО НОВАГА?

### Інстытут культуры

У гэтым навучальным годзе на першыя курсы будзе прынята 425 чалавек на стацыянарнае і 250 — на завочнае навучанне. У наступныя гады плануецца паступовае павелічэнне прыёму студэнтаў.

Факультэт бібліятэказнаўства і бібліяграфіі будзе рыхтаваць бібліятэкараў для масавых, навуковых, дзіцячых, школьных і тэхнічных бібліятэк. Факультэт культасветработы — клубных работнікаў вышэйшай кваліфікацыі. Яго выпускнікі змогуць кіраваць самадзейнымі харавымі або танцавальнымі калектывамі, аркестрамі народных інструментаў, стануць рэжысёрамі клубных масавых прадстаўленняў. З першых гадоў вучобы для студэнтаў факультэтаў уводзіцца спецыялізацыя, што дасць магчымасць кожнаму з іх больш глыбока вывучыць будучую прафесію.

Будучыя майстры бібліятэчнай справы атрымаюць неабходныя веды і навыкі для работы ў механізаваных бібліятэках. Яны змогуць весці машынны пошук неабходнай літаратуры, кіраваць аўтаматычным адборам і падачай кніг, дасканала авалодаюць размнажальнай тэхнікай. Для правядзення практычных заняткаў вучэбныя лабараторыі інстытута будуць аснашчаны сучасным абсталяваннем і машынамі.

У распараджэнне студэнтаў і выкладчыкаў новага інстытута прадстаўляецца вышынны будынак. Узводзіцца таксама сучасны студэнцкі інтэрнат.

З новага навучальнага года адкрываецца яшчэ адна навучальная ўстанова, якая будзе рыхтаваць работнікаў культуры. Першы прыём студэнтаў правядзе ў жніўні Мінскае культасветвучылішча. У наступныя гады такія ж вучылішчы будуць адкрыты ў Брэсце і Гомелі.



## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### ЛЁГКААТЛЕТЫ

Найлепшымі лёгкаатлетамі ў пачатковай школе № 3 у Бельску Падляшскім з'яўляецца Андрэй Карпюк і Юрка Куна з сёмага класа. Маюць яны найлепшыя вынікі ў скоках: А. Карпюк (160 і 515 см) і Ю. Куна (150 і 509 см), а таксама ў бегу на кароткія дыстанцыі.

У чатырохбор'і яны заваявалі першае і другое месца ў павеце.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

### КАМУ МАЛАКО Ў ШЧАРБАТЫМ КУБКУ?

Я з'яўляюся частым кліентам сталовай пры вуліцы Міцкевіча ў Бельску. Меню даволі багатае. Ёсць з чаго выбіраць. Адно толькі непрыемнае: падаюць малако, каву ці какао ў пашчэрбленым кубачку. Гэта неэстэтычна ды й вусны можна пакалечыць. Чаму ў сталовай падаюць людзям напітак у посудзе з надбітымі ды пашчэрбленымі краямі. Усім жа вядома, што калі кліент паб'е або надаб'е посуд, то плаціць столькі, колькі каштуе новы або і больш. Дык чаму гэта бяскарна абыходзіцца работнікам сталовай, якія часцей за ўсё б'юць пасуду пры яе мыцці?

(ця)

### ГАРКАВІЦКАЯ СВЯТЛІЦА

Гаркавічы — невялікая вёска. Пасярэдзіне святліца, а ў ёй клуб. Тут лад і парадак. Прывітае ветлівая Ірэна Аношка. Працуе тут яна яшчэ нядоўга, аднак відаць ужо эфекты яе працы. Зацікавіў мяне музей народжанага ў гэтай вёсцы — Сяргея Прытыцкага. Кіраўнік Ірэна Аношка ахвотна памагла агледзець усё, што знаходзіцца ў музеі. Расказала многа цікавага пра Сяргея Прытыцкага.

Гаркавічы — гэта адзіная вёска на Сакольшчыне, якая перахоўвае памяць слаўнага земляка.

**Я. Бандарук**

## ТАК БЫВАЕ...

### АДХУДЗІЛА СЫНА

Уладак рос і таўсцеў. Некаторыя называлі яго таўсцяком, але ён не перажываў. Быў жа наймацнейшым сярод равеснікаў. Любіў добра паесці і многа паесці. Незадаволена была гэтым яго маці. Не падабаўся ёй, модніцы-элегантцы, выгляд Уладка. Бесперапынна рабіла закіды яна сыну, што многа есць, што таму такі тоўсты. І пачала свайго 17-гадовага Уладка прымушаць, каб ён адхуджаўся. Вызначыла яму дыету, не давала яму есці, колькі хацелася. Але, калі маці не было, ён заўсёды наесца так, што аж жывот распірала. Тады маці пачала даваць сыну тры разы ў дзень нейкія таблеткі, ад якіх хутка можна пахудзець і якія з цяжкасцю яна здабывала рознымі спосабамі. І сын пачаў худзець. Маці была ў сёмым небе. Яна, мусіць, не ведала, што кожны лек лечыць адно, а нішчыць другое. І нядоўга радавалася яна. За паўгода сын страшэнна схуд, больш, як маці хацела. Перастала яна даваць яму таблеткі. Але паўстрымаць працэс худзення яна ўжо не магла, хаця сыну цяпер не бараніла есці. Ды сын ужо не мог есці, як раней. Ужо і мала з'еўшы, адчуваў сябе дрэнна. Тыя таблеткі пашкодзілі яму ныркі. Ныркі перасталі належна функцыянаваць. Пачаў затручвацца арганізм Уладка. І маці ўжо ўсё аддала б, каб сын быў такі тоўсты, як раней, і такі моцны, як раней. Уладак страшэнна мучыўся ў шпіталі. На некалькі дзён перад смерцю сказаў маці: „Мама, гэта з-за цябе я пайду ў зямлю". Хацеў ён яшчэ больш ёй сказаць, але змоўк, калі ўбачыў, што маці пачала плакаць і рваць на сабе валасы.

**М. Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 1)

## ПРЫНЦЫП ДАБРАВОЛЬНАСЦІ І ЯГО ДЗЕЯННЕ

прынцыпамі ў гэтай справе кіраваліся і кіруюцца школьныя ўлады?

Летам 1949 года, напярэдадні аднаўлення беларускага школьніцтва, міністр асветы загадваў беластоцкаму куратару наступнае (пісьмом № II-P-4842/49 ад 6 жніўня 1949 г.):

„Z uwagi na to, że w Okręgu Szkolnym Białostockim pewną część ludności stanowi ludność białoruska Ministerstwo Oświaty poleca przystąpić w miejscowościach zamieszkałych przez tę ludność do zorganizowania i uruchomienia z dniem 1 września 1949 r. szkół podstawowych z białoruskim językiem nauczania."

Згодна з гэтым загадам, адзіным прынцыпам, з якога зыходзіла школьная адміністрацыя пры арганізаванні навучання роднай мовы, была нацыянальная прыналежнасць насельніцтва. Навучанне роднай мовы было, такім чынам, абавязковым для ўсіх вучняў беларускай нацыянальнасці і адбывалася ў школах з беларускай або польскай мовай навучання ў залежнасці ад дабравольнага рашэння бацькоў. Таксама фармулявала гэтую справу чарговая інструкцыя міністэрства асветы № S 05-192/54 ад 13 студзеня 1954 года, адрасаваная тагачаснаму аддзелу асветы ВРН у Беластоку.

Упамянутыя правілы былі вынікам прызнання грамадскага значэння роднай мовы беларускага насельніцтва Беласточчыны. Абавязвалі яны 7-8 гадоў. На іх падставе і без удзелу неіснуючага тады яшчэ БГКТ была створана школьная сістэма, якая забяспечвала навучанне роднай мовы ва ўсіх школах, у якіх меліся адпаведныя кадравыя магчымасці.

Параўнальна невялікія змены наступілі ў 1957 годзе. Новае распараджэнне міністэрства асветы № S 04-4857/57 ад 14 лістапада 1957 года, якое датычылася прадмета беларускай мовы ў школах з польскай мовай навучання, сцвярджала:

„Nie zachodzi potrzeba odwoływania się do opinii rodziców w sprawie kontynuowania nauki języka białoruskiego w tych szkołach... Do opinii i życzeń rodziców należy odwoływać się przy wprowadzaniu nauki języka białoruskiego do tych szkół z polskim językiem nauczania, w których dotychczas nie jest ona prowadzona. Z chwilą wprowadzenia do szkoły nauki języka białoruskiego staje się ona dla młodzieży białoruskiej obowiązkowa".

Новае становішча адрознівалася ад папярэдняга толькі тым, што адмяняўся прынцып нацыянальнай прыналежнасці як аўтаматычны фактар у арганізаванні новых пунктаў навучання роднай мовы. Нязменным аставаўся прынцып абавязковасці яе навучання для дзяцей беларускай нацыянальнасці. Ва ўмовах яго дзеяння і з дапамогай актыву БГКТ беларускае школьніцтва на Беласточчыне прадаўжала развівацца.

Істотную змену ў адносінах міністэрства асветы прыносіць 1962 год. Пісьмом № SO-K/N-4506 ад 17 лістапада 1962 года, адрасаваным беластоцкай кураторыі, акрэсліла яно ўпершыню беларускую мову ў школах з польскай мовай навучання як „дадатковы прадмет". Гэтай юрыдычнай формулай прыкрывалася рашэнне адмены папярэдніх правілаў аб абавязковасці яе навучання. Сведчыць аб гэтым — цяпер ужо паслядоўнае — указанне, якое дапускала „неабходнасць" звальняць вучняў з заняткаў беларускай мовы не толькі па прапанове бацькоў, але і згодна з меркаваннем кіраўнікоў школ.

Гэтае рашэнне не атрымала шырэйшага распаўсюджання. І не выпадкова. Беластоцкая кураторыя і іншыя ваяводскія ўлады добра ўсведамлялі магчымыя яго эфекты, у сувязі з чым далі яны гэтай справе вельмі абмежаваны ход. У выніку абсяг навучання беларускай мовы ў пачатковых школах праяўляў да канца 60-тых гадоў значную стабілізацыю (10-11 тысяч вучняў у год). Была гэта, аднак, гаспадарская паўмера, паколькі не рашыла справы прынцыпова.

Вузкі мясцовы практыцызм не забяспечыў трывалых вынікаў. 22 лютага 1971 года кураторыя атрымала новую інструкцыю міністэрства № SO Nar. - O14-1/1/71, якая змяшчае наступныя ўказанні:

„... Ministerstwo uprzejmie informuje, że przy organizowaniu w szkołach nauki języka ojczystego dla dzieci, które nie są narodowości polskiej, obowiązuje stosowanie zasady pełnej dobrowolności... Kierownicy szkół obowiązani są przeprowadzać co roku zapis uczniów na naukę języka ojczystego... Uczeń zapisany na naukę języka ojczystego jest obowiązany regularnie uczęszczać na lekcje tego języka przez cały rok szkolny..., natomiast nie jest obowiązany zapisać się na tę naukę w następnym roku szkolnym".

Як бачым, прынцыпы школьных улад не былі аднароднымі і нярэдка змяняліся ў залежнасці ад трактавання грамадскага і педагагічнага значэння роднай мовы. Зразумела, што ў сувязі з гэтым той самы прынцып дабравольнасці атрымліваў штораз іншы змест, залежна ад яго інтэрпрэтацыі. Спасылаючыся на даныя, апублікаваныя Мікалаем Гайдуком*), можна заўважыць, што раптоўнае змяншэнне абсягу навучання беларускай мовы пачалося якраз ад дзеяння ўпамянутай інструкцыі нягледзячы на яе пазнейшую мадыфікацыю. Як відаць, справу гэтую школьныя ўлады пусцілі, у найлепшым выпадку, на самацёк.

У такім плане прэтэнзіі, якія М. Гайдук і С. Яновіч кіруюць у адрас БГКТ і настаўнікаў, можна зразумець толькі як наіўную спробу ацэнкі становішча. Прэтэнзію да Галоўнага праўлення БГКТ мець можна за тое, што доўгі час хавала яно галаву ў пясок і не зрабіла амаль нічога для прынцыповага вырашэння пытання роднай мовы ў школах.

**Юры Туронак**

*) *гл. „Ніва" № 23 ад 8.VI.1975 г.*

### ПРАДАЎШЧЫЦА З КЛЕЙНІК

У некаторых вёсках прадаўшчыцы не дбаюць пра парадак і чысціню ў сваіх магазінах. Але ёсць і іншыя. Прадаўшчыцай з'яўляецца і Лідзія Яканюк, якая працуе ў Клейніках. Працуе яна тут ужо многа год. За ўсе гэтыя гады ніхто не сказаў на яе, што яна не дбае пра магазін. Можна ў яе купіць усе патрэбныя рэчы. Прадаўшчыца аб гэтым усім стараецца. Яна вельмі мілая. Часта раіць людзям, што купіць, ці варта.

У клейніцкай краме можна купіць блузку, хвартух, а таксама розныя гаспадарчыя прылады. Чыста тут. Заўсёды ў час навагодніх свят стаіць прыгожая ёлка. І людзі задаволены. З прыемнасцю заходзяць у краму.

**Чытач „Нівы"**

## ЯНА ЎСКАЛЫХНУЛА НАРОД

(Працяг са стар. 1)

наў. Адно пасля таго, калі па сёлах і мястэчках Заходняй Беларусі стала распаўсюджвацца прынятая 12 мая 1926 года праграма БСР Грамады, арганізацыя пачала ахопліваць усё шырэйшае кола людзей. І не дзіва. Грамада ў сваёй праграме дамагалася: устанаўлення ў краіне сялянска-рабочага ўраду, увядзення дэмакратычнай свабоды, канфіскацыі памешчыцкіх і царкоўных зямель і падзелу іх паміж малазямельнымі і беззямельнымі сялянамі, зняцця падаткаў з працоўных і абкладання імі заможных класаў, устанаўлення васьмігадзіннага рабочага дня і рабочага кантролю над вытворчасцю на прадпрыемствах, поўнай нацыянальнай роўнасці і навучання на роднай мове, права на самавызначэнне Заходняй Беларусі і яе аб'яднання ў адзінай рэспубліцы сялян і рабочых.

Гэта якраз поўнасцю адпавядала імкненням і надзеям працоўнага люду Заходняй Беларусі, і Грамада становіцца сапраўднай усенароднай арганізацыяй ад берагоў ракі Буга і да пагранічнага мястэчка Стоўбцы. Ужо ў канцы 1926 г. яна складаецца з каля 1 800 гурткоў і 70 000 членаў, а праз месяц — са звыш 2 000 гурткоў і каля 120 тысяч членаў. Актыўна працавала 18 павятовых камітэтаў Грамады, сярод іх на Беласточчыне: Бельскі з 90 гурткамі і амаль 3 тысячамі членаў, Беластоцкі з 60 гурткамі і амаль 2 700 членамі і Сакольскі з 30 гурткамі і амаль 1 000 членамі.

Грамада сапраўды „ўскалыхнула народ", у яе рады ўступалі найбольш вартасныя, актыўныя і самаахвярныя людзі. Напрыклад, у Белавежы вялікім гуртком Грамады кіравалі выдатныя дзеячы-камуністы А. Вашкевіч, С. Пісарэвіч, В. Габец. У Орлі на чале стоасабовага гуртка быў здольны дзеяч К. Куптэль, які заснаваў гурткі ў Кашалях, Міклашах, Крывяцічах, Дашах і шэрагу іншых навакольных сёлаў. У Кляшчэлях дзейнічалі Я. Младзяноўскі і Я. Базылюк. У тагачасным Беластоцкім павеце вядомымі актывістамі Грамады былі члены яе павятовага камітэта А. Грэсь, В. Казлоўскі і М. Пэтэльскі. У Сакольскім павятовым камітэце дзейнічалі М. Альшэўскі, А. Здануk, П. Беламызы, А. Піруta. Асабліва вялікую ролю адыграў на Беласточчыне пасол у Сейм, член Цэнтральнага камітэта Грамады, яе Савета і Сакратарыята Павел Валошын, які паходзіў з вёскі Гаркавічы, што на Сакольшчыне.

Грамадой ідэйна кіравала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, а вядучыя яе дзеячы былі членамі КПЗБ.

Грамада праводзіла палітычныя мітынгі, сходы і дэманстрацыі, накіраваныя супраць палітыкі ўраду, кіравала выступленнямі сялян супраць непасільных падаткаў і за падзел абшарніцкай зямлі паміж сялянамі, арганізоўвала дэманстрацыі за вызваленне палітычных вязняў, яе члены праводзілі выясняльную працу і збіралі заявы ад насельніцтва аб неабходнасці адкрыць беларускія школы. Цэнтральны камітэт Грамады выдаваў славуты сатырычны часопіс „Маланка" і, нягледзячы на няспыннае канфіскаванне іх тагачаснымі ўладамі, газеты: „Жыццё беларуса",



*С. Рак-Міхайлоўскі — намеснік старшыні ЦК БСР Грамады.*

